© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 22 (953) ГОД XIX БЕЛАСТОК 2 ЧЭРВЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.




*Так пачынаецца сужыццё...* *Фота А. Карпюка.*

У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ




## НА СЦЭНЕ МОЛАДЗЬ

Самадзейны драматычны калектыў з Катлоў выступіў на цэнтральным аглядзе ў Беластоку з п'есай „Боты“. Катлоўскаму калектыву ніколі не ўдалося выехаць па-за сваю вёску на агляд, а тут, бач, папалі на цэнтральны.

Два гады таму назад катлоўская моладзь выступіла з „Люцынкай-інжынерыхай“ і яшчэ адной п'есай (самі ўжо добра не памятаюць), і гэта людзям спадабалася. Але ад таго часу ўсё стала ціха. Некаторыя прыпамінаюць сабе, што нават нехта з „павету“ прапанаваў удзел у павятовым аглядзе, але тыя, што выступалі ў „Люцынцы“, як тут гавораць, тады распаліся (пажаніліся, павыходзілі замуж).

Ажно ў гэтым годзе катлоўская моладзь ізноў задумала паставіць п'есу. Ініцыятыву ўзялі ў свае рукі наймалодшыя — вучні сярэдніх школ ў Бельску Падляшскім.

Галоўным ініцыятарам і стваральнікам калектыву ў Катлах быў Янак Гушча, вучань Агульнаадукацыйнага ліцэя № 2 у Бельску. Янак з'яўляецца старшынёй гуртка ЗСМВ у Катлах.

— Гэта дзякуючы яго настойлівасці і арганізацыйнай умеласці, — сказала рэпарцёру дырэктар школы Люба Карыцкая, — калектыў дайшоў да цэнтральнага агляду. Янак не меў ролі ў гэтай п'есе, але быў усюды з калектывам, падобна, зрэшты, як Таіса Наумчук, старшыня гуртка БГКТ у Катлах.

З Таісай мне не ўдалося пагаварыць (якраз здавала матуру ў Бельскім беларускім ліцэі), а Янак усё расказаў проста:

(Працяг на стар. 4)



*Шавец (Я. Малішэўскі) вядзе гутарку з Траяком (М. Пацэвічам).*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“



СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ

## НА ФАБРЫЦЫ КВЕТАК і ГАРОДНІНЫ

Фабрыкай гародніны і кветак называюць беластаччане Агародніннае прадпрыемства ў **Ігнатках.** І гэта не выпадкова — найлепшую моркву, буракі, цыбулю, радыску, салат і іншую гародніну; найбольш смакавітыя яблыкі і слівы ды самыя прыгожыя гваздзікі, гіяцынты, цюльпаны, герберы і ружы вы круглы год знойдзеце ў трох фірменных ігнаткаўскіх магазінах і ў шматлікіх спажывецкіх крамах і кваціярнях Беластока.

Ужо чатыры гады працуе ў Ігнатках магістр інжынер **Анатоль Навіцкі,** два гады эканамістам, і два — кіраўніком прадпрыемства. Паходзіць А. Навіцкі з вёскі Грыневічы Вялікія, што каля Бельска Падляшскага. У 1963 годзе ён закончыў Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім і паступіў на факультэт эканомікі сельскай гаспадаркі Сельскагаспадарчай акадэміі ў Варшаве. Праца на зямлі, агародніцтва змалку цікавіла яго, таму пасля вучэбнай практыкі ў Ігнатках А. Навіцкі ўжо з дыпломам інжынера магістра з ахвотай прыняў тут прапанову сталай працы. У той жа час не спыніў сваіх сувязей з Інстытутам садаводства ў Скерніявіцах, каб працягваць распачатыя яшчэ ў часе вучобы навуковыя даследаванні.

— Таварыш кіраўнік, можа некалькі слоў аб гаспадарцы, якую вы ўзначальваеце, — папрасіў я А. Навіцкага.

— Наша прадпрыемства з'яўляецца адной з шасці дзяржаўных гаспадарак, што ўваходзяць у Беластоцкае аб'яднанне сельскагаспадарча - агародніннных прадпрыемстваў. Спецыяльнасць Ігнатак — гэта агародніцтва і садаводства, хоць і іншая сельскагаспадарчая прадукцыя займае таксама не малое месца. Гаспадарым на 550 га, у тым ліку маем 240 га сельскагаспадарчых угоддзяў, на іх — 40 га саду і 30 га агароду, а нашыя цяпліцы займаюць пад шклом 4 200 квадратных метраў.

— Што вырошчваеце?

—У агародзе на адкрытым грунце ў мінулым годзе наша гаспадарка займалася вырошчваннем морквы (5 га), буракоў (5 га), капусты (6 га), пятрушкі (4 га), сельдэрэю (3 га), парэю (3 га) і многіх іншых відаў варыва, а таксама ранняй бульбы (10 га) і атрымалі мы з гэтага ўраджай агульнай



вартасцю ў 1 мільён 700 тысяч злотых. Наш сад яшчэ малады, але ў 1973 г. мы сабралі з 36 га яблынь і 4 га сліваў 270 тон фруктаў вартасцю ў 1 мільён 900 тысяч злотых. Калі сад увойдзе ў поўную сілу свайго пладанашэння, лічым, што ён дасць фруктаў вартасцю звыш 3 мільёнаў злотых. Але ўсё ж найбольш даходная справа — гэта наша цяплічная гаспадарка. У адной палавіне нашых цяпліц вырошчваем раннюю агародніну (памідоры, агуркі, салат, радыску і г.д.), а ў другой — кветкі (каля 140 тысяч гваздзікі, 70 тысяч ружаў, 30 тысяч гербераў, а таксама гіяцынты, цюльпаны, ірысы і іншыя). І гэтыя 4 200 квадратных метраў даюць нам у год 1 мільён 900 тысяч злотых (у тым ліку 600 тысяч — гародніна і 1 мільён 300 тысяч — кветкі).

— Усё гэта надта працаёмкае, і людзей у вас працуе пэўна, шмат?

— Каб так ужо многа, дык не, усяго 60 асоб, з іх 13 чалавек у дзвюх агародніных крамах і адной кваціярні ў Беластоку, а іншыя — у самой гаспадарцы. Выручаюць нас машыны і самыя сучасныя метады вырошчвання, хоць да пасадкі расады, праполкі, ды збору фруктаў нам заўсёды не хапае рабочых рук. Праўда, дапамагаюць крыху добраахвотныя маладзёжныя атрады працы і школьная моладзь з Беластока. Але гэта толькі ў найбольш „гарачым“ часе — вясной ды восенню. З іншымі працамі самі ўпраўляемся.

— Перспектывы?

— Перш за ўсё — гэта новая цяпліца на 19 тысяч квадратных метраў паверхні. Яна ўжо будуецца, і ў 1975 годзе ў яе частцы мы здымем першы ўраджай. Затым пашырым наш агарод на адкрытым грунце да 50 га. У Доме селяніна, што неўзабаве будзе ўзводзіцца ў Беластоку, будзем мець новую кваціярню. А ўсё гэта будзе патрабаваць прымянення новых машын ды самых сучасных метадаў вырошчвання.

Наша размова праходзіла якраз напярэдадні выезду мгр інж. Анатоля Навіцкага ў Злучаныя Штаты Амерыкі на год практыкі ў садаводчых гаспадарках у штаце Нью-Йорк. Што ж, жадаем яму здабыцця каштоўнага вопыту для таго, каб агарод і сад у Ігнатках яшчэ прыгажэй красаваўся і дастаўляў нам болей смакавітых фруктаў і гародніны.

Размаўляў **М. Гайдук**

ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕКУ...




## КАБ НЕЯК ДА СМЕРЦІ...

Ішла вясковай дарогай, падпіраючыся кійком, няўпэўнена шукаючы цвёрдай сцяжынкі.

— Гэта тая, — падумаў я, убачыўшы яе здалёк. Справа, якая прывяла мяне ў вёску Райкі, пачалася ад лісту.

*„Яканчук Агаце з вёскі Райкі ў Бельскім павеце, — пісаў нам чытач Валік С., — ужо амаль 80 гадоў. Яна зусім сляпая. Не мае ніякай сям'і, ані сваякоў, якія маглі б ёю апекавацца. Дапамагаюць ёй суседзі. Жыве яна ў памяшканні, якое неадкладна трэба рамантаваць, бо печкай зусім немагчыма карыстацца, а сцены ў кожны момант могуць заваліцца. Хто возьме пад сваю апеку гэту бабульку, калі настане зіма? Такое пытанне ставіць сабе шмат людзей. Можа рэдакцыя што-колеч паможа“.*

Мы спынілі машыну, я пераступіў дарогу згорбленай старавіне.

— Гэта вас завуць Агата Яканчук?

— Га? — адазвалася бабулька, а яе белыя, бяльмом залітыя вочы трывожна забегалі ад перапалоху. Я яшчэ і яшчэ паўтараў сваё пытанне, пакуль не зразумеў, што сустрэў зусім іншага, таксама абяздоленага чалавека. Яе за-

(Працяг на стар. 5)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# БГКТ хроніка

■ 12 мая ў Бельску, Гайнаўцы і Міхалове адбыліся песенныя конкурсы школьнікаў, арганізаваныя аддзеламі асветы павятовых упраўленняў.

■ У Міхалове выступіла 45 школьнікаў, сярод якіх было 17 салістаў, 7 дуэтаў, 3 тэрцэты і 5 квартэтаў.

У катэгорыі салістаў журы прызнала два першыя месцы — Марысі Прышчэпка з Бабровнік і Аліне Кузьміцкай з Гарадка, два другія месцы — Пеці Ваўрэнюку з Веек і Лідзіі Матвеюк з Шымак і адно трэцяе месца — Збышку Ляўшуку з Юшкавата Груда.

У катэгорыі дуэтаў першае месца занялі Аліна Кузьміцкая і Тэрэса Жугай з Гарадка, другое месца — Пеця Ваўрэнюк і Ірэна Грыка з Веек і трэцяе месца — Ірэна Клебус і Ірэна Гегель з Зуброў. У катэгорыі тэрцэтаў на першае месца выйшлі Ірэна Салавей, Ліля Грыка і Аліна Грыка з Веек. У катэгорыі квартэтаў першае месца занялі Аліна Кузьміцкая, Іяланта Анхім, Ірэна Матусік і Тэрэса Жугай — з Гарадка. Другое месца: Анна Федарук, Ірэна Раманюк, Тамара Раманюк і Валянціна Максімюк з Паўлаў. Трэцяе месца: Аля Макарэвіч, Ірэна Гегель, Ірэна Клобус і Лявон Зарэцкі. Усім ім былі ўручаны ўзнагароды.

■ У Бельскім павеце ў павятовым аглядзе беларускай песні прыняло ўдзел 18 чалавек. Сярод салістаў першае месца было прызнана Людміле Грайко з падставовай школы № 3 у Бельску, другое месца — Аліне Рагозе са школы ў Орлі і два трэція месцы — Яўгену Салавянюку з Пасынак і Міраславе Гаўзе з Орлі. Сярод дуэтаў найлепшымі былі М. Голец і Н. Залуская з Вулькі Выганоўскай. Два другія месцы занялі Н. Трафімюк і Л. Шаховіч з Пасынак, а таксама Е. Ляшэўская і В. Міхалюк з Плёсак. Трэцяе месца занялі А. Себятынская і Л. Андрэюк з Пашкоўшчыны. У катэгорыі тэрцэтаў першае месца занялі Е. Ляшэўская, В. Міхальчук, А. Максімюк з Плёсак, а ў катэгорыі квартэтаў І. Панасюк, Н. Антанюк, Е. Ляшэўская і В. Міхальчук, таксама з Плёсак.

■ У Гайнаўку на конкурс песні прыехала 30 чалавек. У катэгорыі салістаў найлепшымі былі Галіна Беглюк і Аліна Назарук з падставовай школы № 3 у Гайнаўцы, а таксама Міраслава Панфілюк з Дубіч Царкоўных. Сярод дуэтаў два першыя месцы журы прызнала Еве Ваўрэшук і Галіне Ваўрэшук, а таксама Галіне Беглюк і Аліцыі Назарук — усе яны з падставовай школы № 3 у Гайнаўцы. Два другія месцы занялі Людміла Яканюк і Галіна Сельвяструк з Клейнік, а таксама Зіна Сабесюк і Аліна Яканюк са школы ў Чыжах. Родныя браты з Клейнік Аляксандр і Валодзя Леўчукі занялі трэцяе месца. У катэгорыі квартэтаў першае месца не прызнана. Затое два другія месцы занялі школьнікі з Дубін і Клейнік і два трэція — школьная моладзь з Трасцянкі і Тыневіч.

■ 19 мая калектыў песні і танца гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку выступіў у Ялоўцы падчас гарцэрскіх урачыстасцей.

■ 19 мая ў памяшканні ГП у Беластоку адбыўся фінал песеннага конкурсу школьнікаў. Аб ім чытайце ў наступным нумары „Нівы". (мх)



*Канцэртуюць спалучаныя хоры БГКТ пад кіраўніцтвам Артышэвіча.*

## На кніжным кірмашы

Вельмі ўрачыста адзначаліся Дні культуры, асветы, кніжкі і друку на Беласточчыне. На тэрыторыі былой сельскагаспадарчай выстаўкі дзесяткі кіёскаў з кніжкамі, газетамі, альбомамі, паштоўкамі, пласцінкамі, філатэлістычнымі маркамі.

Адзін кіёск быў прыдзелены на продаж выданняў Галоўнага праўлення БГКТ. Працаўнікам і актывістам БГКТ даверылі весці продаж. Побач іх наш пісьменнік — Сакрат Яновіч, які на месцы падпісваў свае кніжкі. У апошнюю нядзелю Дзён на кірмашы ў Беластоку было прададзена шмат нашых выданняў.

Побач кіёскаў увесь час выступалі артысты-аматары. Сярод іх харавыя калектывы БГКТ: „Васілёчкі" з Бельска Падляшскага пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука, з Дубяжына Бельскага павету пад кіраўніцтвам Міхася Артышэвіча і калектыў з Гарадка Беластоцкага павету пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай. Кожны з калектываў выступіў са сваім рэпертуарам беларускіх народных і рэгіянальных песень, а на заканчэнне спалучаныя хоры заспявалі песню „Бывайце здаровы".

**Тэкст і фота А. Карпюка**

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА




Беларуская кніга мае старую гісторыю. Яшчэ ў 1517 годзе выдатны беларускі асветнік Францыск (Георгій) Скарына заснаваў у чэшскай сталіцы Празе друкарню і выпусціў першую кнігу на мове свайго народа. Але за чатырыста год, мінуўшых з таго часу да 1917 года, на беларускай мове было выпушчана толькі некалькі соцень кніг.

Развіццё выдаўнічай справы і паліграфічнай прамысловасці па-сапраўднаму пачалося толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У канцы 1917 і пачатку 1918 года ў Беларусі адкрываюцца першыя выдавецтвы. Найбольш значным сярод іх было выдавецтва „Звязда", створанае перад самай Кастрычніцкай рэвалюцыяй пры Мінскім камітэце РСДРП (б). У студзені 1921 года ствараецца дзяржаўнае выдавецтва БССР, якое адыграла вялікую ролю ў развіцці кнігадрукавання, у ажыццяўленні культурнай рэвалюцыі ў рэспубліцы. За першы год сваёй дзейнасці яно выпусціла 196 кніг і брашур, тыраж якіх склаў паўтара мільёна экземпляраў.

У перадваенныя гады не толькі няўхільна расла колькасць выдаваемай літаратуры, але і яе ідэйная і навуковая вартасць. У 1940 годзе ў БССР было выпушчана 772 назвы кніг і брашур тыражом 10.370 тысяч экземпляраў.

Выдаўнічая дзейнасць не спынялася ў час Вялікай Айчыннай вайны. У Маскве працавала выдавецтва „Советская Белоруссия". Дзесяткі газет выходзілі ў партызанскіх атрадах. Выпускаліся і кнігі. Так, напрыклад, быў выдадзен зборнік вершаў беларускага паэта Анатоля Астрэйкі „Слуцкі пояс", надрукаваны ў лесе, у партызанскай друкарні.

Адразу ж пасля вызвалення Беларусі пачалося аднаўленне паліграфічнай прамысловасці. Ужо ў 1945 годзе выйшла 3.853 тысячы кніг і брашур, у тым ліку 1.149 тысяч школьных падручнікаў.

Сёння ў Беларускай ССР працуе 8 кніжных і 2 газетна-часопісныя выдавецтвы. Буйнейшае з іх — „Беларусь" — выпускае грамадска-палітычную, справачную, медыцынскую, музычную літаратуру, выяўленчую прадукцыю. Створанае ў 1972 годзе выдавецтва „Мастацкая літаратура" займаецца выпускам мастацкай і дзіцячай літаратуры. „Народная асвета", „Вышэйшая школа" і выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна выдаюць падручнікі, навуковыя дапаможнікі і метадычную літаратуру для школ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навуковых устаноў. Выдавецтва „Навука і тэхніка" выпускае навукова-тэхнічную, „Ураджай" — сельскагаспадарчую літаратуру. Працуе выдавецтва „Беларускай Савецкай Энцыклапедыі".

Беларускі чытач на сваёй роднай мове знаёміцца са скарбамі сусветнай літаратуры братніх народаў СССР. У перакладзе на беларускую мову выйшлі творы Шэкспіра, Сервантэса, Гётэ, Байрана, Бернса, Пушкіна, Лермантава, Бальзака, Гейнэ, Міцкевіча, Гюго, Дзікенса, Заля, Талстога, Твэна, Ралана, Горкага, Маякоўскага і іншых пісьменнікаў.

У 1971 годзе ў Беларусі выпушчана 2.600 назваў кніг і брашур тыражом 26.222 тысячы экземпляраў — амаль тры кнігі на кожнага жыхара рэспублікі. (У 1940 годзе на кожнага жыхара было выпушчана па адной кнізе, а ў 1913 годзе адна кніга прыходзілася на 32 жыхароў).

**(Працяг на стар. 4).**

# Што новага?

## Зноў дубяжынцы

Жыхары вёскі Дубяжын у Бельскім павеце ўжо няраз даказвалі ў практычнай дзейнасці, што супольнымі сіламі шмат чаго добрага можна зрабіць дзеля агульнай карысці. Так яны пабудавалі мост праз рэчку, які скараціў ім дарогу з вёскі на сенажаці. Гэты мост служыць сялянам ужо некалькі год, хаця яго ўсё яшчэ не прызнае павятовае праўленне мясцовымі дарогамі.

Пасля дубяжынцы прыступілі да будовы святліцы, і ў снежні мінулага года была яна ўжо перададзена ў карыстанне.

А цяпер узяліся яны за яшчэ адзін грамадскі пачын — за пабудову будынка для цэнтра аховы здароўя.

Сакратар Бельскай гміны Міхал Чаламей, калі пытаў я яго пра тое, што новага ў іх гміне, перш за ўсё ўказаў мне на дубяжынцаў.

— Гэты цэнтр здароўя, — гаварыў ён, — будзе каштаваць амаль 2 мільёны 200 тысяч злотых. Дубяжынцы грамадскім чынам ужо падрыхтавалі катлаван пад фундамент, навазілі жвіру і абяцалі далейшую дапамогу. Нам трэба толькі абяспечыць спецыялістычны догляд і добрае кіраванне працай.

Арганізацыяй грамадскай працы пры будове дубяжынскага цэнтра здароўя займаецца ў вёсцы спецыяльны камітэт. Асабліва шмат часу і ўвагі ўдзяляюць гэтай справе солтыс Раманюк і лекар Язэп Саевіч.

Ёсць магчымасць, каб паскорыць заканчэнне гэтага каштоўнага мерапрыемства, паколькі грошы дае павятовае кіраўніцтва **Нацыянальным фондам аховы здароўя**, дубяжынцы ахвотна дапамагаюць у працы, няма толькі дастатковай колькасці матэрыялу для пабудовы, асабліва не хапае цэменту.

Сяляне ў Бельскай гміне, як адзначае сакратар Міхал Чаламей, цяпер масава будуюцца і раскупляюць кожную колькасць цэменту. Не хапае яго, хаця прыдзелы для Бельскай гміны за апошні год узраслі на 10—15 працэнтаў.

Таму дубяжынцы баяцца, што не змогуць да зімы паставіць свайго асяродка пад дахам.

Падобную пабудову распачалі ў вёсцы Лубін Касцельны. Там таксама народ дружна бярэцца за справу. Калі спецыяліст па будаўніцтву заехаў у вёску, каб правесці ўступныя доследы і размеры, яму на дапамогу сабралася людзей больш, чым трэба было. Запланаваную ім работу на два дні, ён закончыў у адзін дзень. Апрача гэтага, сяляне з вёскі Лубін Касцельны добраахвотна сабралі ўжо на фонд пабудовы свайго цэнтра здароўя амаль 70 тыс. зл.

Астаецца толькі адно, каб знайшоўся нейкі добры дзядзька, які б захацеў памагчы Бельскай гміне атрымаць дадатковы прыдзел цэменту на рэалізацыю такіх каштоўных грамадскіх пачынаў. А можа ВЗГС? (вр)

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 2.VI.** 6.30 Tech. Rol. Wskazówki metod. 7.00 Chem. 7.30 Kurs Rol. 8.15 Nowoczes. w domu i zagr. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Ex libris. 10.30 Rekonesans w przyszłość. 11.10 Z kamerą wśród zwierząt. 11.55 Dziennik. 12.15 Program dla wsi. 12.40 Zespół Pieśni i Tańca „Lasowiacy". 13.05 W starym kinie. 14.00 Dla dzieci. 14.40 Nie tylko dla pań. 15.10 Kwadrans tyg. 15.25 Los. Toto-Lot. 15.50 My 74. 16.50 Refleksje ob. 17.05 Postaw się, nie zastaw się. 18.00 Eliminacje ind. mistrzostw świata na żużlu. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Odyseja — film wł. 21.15 Gwiazdy siedmiu stolic. — pr. rozr. 22.25 Sport.

**Poniedziałek 3.VI.** 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.40 Nurt — Gosp. miejsce Polski w Europie i świecie. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Warsz. perspektywy. 17.40 Koncert dawnej muzyki polskiej. 17.55 Kr. Warsz. i Maz. 18.15 Szlakiem ślężańskiej legendy — film. 18.25 Piłka nożna. KADRA (PZPN) — ANDERLEUHT (Belgia) II połowa. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: St. Stampf'l Szósty dzień tworzenia. 21.35 Ludzie z plakatów. odc. I. 22.30 Dziennik. 22.45 Arie operowe śpiewa Marta Bohacova — sopran (CSRS).

**Wtorek 4.VI.** 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 7.00 Mech. rol. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) Nasze święto. 10.20 Melduję posłusznie — film fab. czech. (Dobry wojak Szwejk) cz. II. 11.55 Odyseja — film wł. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 Sylwetki X Muzy — Leszek Herdegen. 17.30 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Eureka. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobry wojak Szwejk. cz. II. 21.55 Sport. 22.05 Interstudio. 22.35 Dziennik. 22.50 Śpiewa Frank Schoebel.

**Środa 5.VI.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chem. Sole. 9.30 On. ona i ono. — film fab. NRD. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fiz. Atom i energia. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Hist. Lata rewolucji i odbudowy. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 14.40 Politechn. TV. Kurs przygot. Fiz. 15.55 Nurt — Pedag. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Latający Holender. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.35 Towarzysz Komputer — film dok. 18.05 Na gitarze klasycznej gra Werner Pauli (NRD). 18.25 Kr. Warszawy i Maz. 18.45 Dziecko w świecie dorosłych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 On, ona i ono — film fab. NRD. 21.50 Sport. 22.00 Spotkanie z Mieczysławem Czechowiczem — wieczór II. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 6.VI.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.10 Wielki plan Bassa — film fab. USA (Al Capone i inni). 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Hist. Żywią i bronią. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. Z. Nałkowska „Granica". 13.45 Tech. Rol. Zoolog. 14.30 Botanika. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Wiem wszystko. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Budniacy — rep. film. 18.55 Test — Trzeci Świat. 19.05 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Wielki plan Bassa — film fab. USA (Al Capone i inni). 21.10 Czym żyje świat. 21.40 Sport. 22.50 Dziennik. 23.05 Magazyn ITP.

**Piątek 7.VI.** 6.30 Tech. Rol. Zoolog. 7.05 Botanika. 8.50 Ballada o Wójtowej Maryni — film czech. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Geogr. Zbudujemy drugą Polskę. 11.05 Dla szkół: (kl. II) Czerwony kur. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Wych. ob. Nasza klasa. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 14.40 Politech. TV. Kurs przygot. Mat. 15.55 Nurt — Filozof. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Tel. Mł. 17.40 Piłka nożna. KADRA (PZPN) — ZSRR. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Sport. 21.40 Teatr TV na świecie: M. Czernyszewski „Co robić" cz. II. 23.10 Dziennik.

**Sobota 8.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. Pod tropikalnym słońcem. 9.30 Jeszcze raz z uczuciem — film fab. USA. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. Handel zagr. Polski. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 J. pol. 15.30 Pr. dnia. 15.35. Pr. I prop. 15.50 Red. Szk. zapowiada. 16.00 Inf. Wyd. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Turniej sportów obronnych. 17.40 Szare na złote. 18.15 Przyroda polska. 18.30 Pegaz 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Jeszcze raz z uczuciem — film fab. USA. 21.55 Dziennik. 22.15 Sport. 22.25 Teatr Nieduży Jeremiego Przybory.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 31. V.** — 13.40 Film dokument. 16.15 Festiwal repub. Okręg grodzieński. 17.45 Film seryjny. 19.30 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Kijów). 21.00 Śpiewa Obrazcowa.

**Sobota 1. VI.** — 8.00 Tydzień planety. 8.15 Mozaika muz. 8.25 Spotkanie sobotnie. 11.15 Koncert Guliajewa. 12.15 Ziemia i ludzie. 12.50 Białoruś literacka. 15.00 W świecie zwierząt. 18.10 Spektakl TV. 19.30 Koncert. 20.15 Sport.

**Niedziela 2.VI.** — 11.30 Film fab. 13.10 Panorama międzynar. 13.40 Śpiewa Wielikanowa. 14.10 Piłka nożna. Bułgaria — Anglia. 16.15 Klub filmowy. 17.15 Wielkie moskiewskie regaty. 17.30 Koncert finałowy festiwalu „Wiosna Kijowska". 19.00 Czas. 19.30 c. d. koncertu.

# КІНО

**Białowieża** Gracz — radz. 4—5. Na niebie i na ziemi — pol. 6—7. Tragedia Mahbeta — angl. 8—9.
**Czeremcha** Wydra pana Grahama — angl. 4—5. Tajemnica Aleksandra Dumasa — CSRS 8—9.
**Czyże** Kes — angl. Na rabunek — radz. 5—9.
**Dubicze Cerkiewne** Pechowy zalotnik — radz. Śladami czarnowłosej dziewczyny — jug. 5—9.
**Gródek** Godzina szczytu — pol. 8—9.
**Kleszczele** Biały pokój — NRD 4—5. Liliowa akacja — NRD 6—7. Prawo gwałtu — USA 8—9.
**Michałowo** Narkomani — USA 4—5. Wakacje we czworo — włos. 6—7. Niebieskie jak morze Czarne — pol. 8—9.
**Mielnik** Film o miłości — węg. 4—5. Królewna w oślej skórze — fran. 6—7. Na niebie i na ziemi — pol. 8—9.
**Milejczyce** Śmierć Indianina — rum. 4—5. Twarz anioła — pol. 6—7. Doktor Popaul — fran. 8—9.
**Narewka** Łobuz — fran. Białe słońce pustyni — radz. 5—9.
**Narew** W pustyni i w puszczy — pol. I i II s. 5—9.
**Nurzec** Rondo — jug. 4—5. El Dorado — USA 6—7. Ciemna rzeka — pol. 8—9.
**Orla** Drogi mężczyzn — czes. Słoń z indyjskiej dżungli — radz. 5—9.
**Rajsk** Śmiałość — radz. Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 5—9.

B.Z.Graf. zam. 1568 0-4



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 185


* ✲ *

Месяц выцвіў ружай
Над дубровай
Срэбрнай ружай
Выцвіў месяц сёння
Дык навошта дарагая словы
Кветку з неба
Ты вазьмі ў далоні
Як цудоўна
Сінія спатканні
Дзесьці сон далёка
Дзесь далёка
Хай ніколі не прыходзіць ранне
Толькі ты і я і свет шырокі
Колькі раз
Яшчэ сказаць кахаю
Колькі раз
Абняць і прытуліцца
Пакланіцца месяцу і маю
І даліне
І каліне
І крыніцы.

**Алесь Барскі**



## Гутарка з сынам маленькім

Няхай цябе сынок
прытулю
знай мой сынок
што я мама твая
пакажы сынок
які ты ўжо вялікі
так так
высока ручкі паднімаеш
мой сынок
стаеш на пальчыках малюткіх
і смяешся шчаслівы
шчаслівы
сыночак
будзеш добры
будзеш моцны вялікі
не будзеш я знаю
трымацца за маю
спадніцу
хавацца не будзеш
за мяне
будзеш сам усё сам рабіць
знаю сыночак
ты яшчэ маленькі
але расці хутчэй расці
і будзь вялікі
і будзь моцны
расці на пацеху
мне і Радзімай Старане.

**Ірэна Баравік**



* ✲ *

*Віншую вас*
*скрыпучыя жалобна дзверы*
*і прорву*
*між сонцам вуліцы*
*і цемнатою клеткі пакою*
*хачу цеплатою адухаўлення*
*ажывіць*
*вашу халодную клямку*
*каб сказала калісь*
*— калі?..*
*націсну яе*
*раз апошні.*

**Кастусь Бандарук**

## НОВЫ ВЕК

У хаце было
ціха,
спакойна.
Я пачула стукат.
Да нас дабіраўся
Новы Век.
Радасць
засляпіла.
Ніхто не заўважыў,
што ён прынёс
мяшкі,
напханыя
сечкай.

**Ніна Гаўрылюк**



## У вішнёвым садзе

У вішнёвым садзе
над шумлівай рэчкай,
рэчкай нам нястрымнай,
рэчкай маладосці,
што нясе ў далечынь
серабрысты воды,
зацвілі зноў вішні.

Бель іскрыцца снегам
на галінках вішань,
і пяе на сонцы
маладосці спевам,
і цалуе вечна
валасы красуняў
цёплым пацалункам.

Нектар пчолы вабіць,
што звіняць бясконца
у паводцы квецця,
у каронах вішань.
А звіняць дзвячыне,
што цалуе квецце
і аб нечым марыць.

Марыць аб каханні,
чыстым, як пах вішань,
як вішнёвы нектар,
як вада ў рэчцы.
Марыць аб спатканнях
над шумлівай рэчкай
у вішнёвым садзе.

**Юрка Баена**

## ВЯСНА

Вачыма не бачу
Чую інстынктам
Заўтра раніцай прыдзе
Не памыліўся

Жаваранкі ў высі
Звоняць званочкамі
Душа вясны
Нарадзілася

Плача кнігаўка
Вярнуўшыся з выраю
Шпак свіснуў
Вітае свой домік
Твар мой асмалены ветрам
Абліваецца потам
Абавязак сялянскі выконваю
Сілай мускулаў
Хвіліну адпачываю
Куру папяросу
Цікава ці ўжо мурашкі ажылі
На Грудзе пад сасною
Красуля падыходзіць
Да мяне ззаду
Лізнула шорсткім языком
Быццам пагляне
Вілы рытмічна
Лічаць мінуты часу
Балоны гною гадзіны
Танцую як клоўн
Туды і назад
Рэнты не запрацую
Гаспадар я ж уласнік
Но косю
Цягні
Трр адпачні
Трава адскочыла за ноч
Зазеляняла свежасцю
Іду да барозду
Першыя белыя кветкі
Скароздра расцвіла
Далікатна схіляюся
Стаю на калені
Агрубелымі рукамі ласкаю пялёсткі
І рагачу на ўсё горла
Коніку не думай
Што я звар'яцеў
Вясна гэта радасць жыцця
І надзея душы.

**Ул. Гайдук**

* ✲ *

*Мне з табой у дарогу*
*Бестурботна ляцець*
*Безгаловы прыяцель*
*Мой маўчун прыгажун*
*Даеш сэрца сваё*
*Белу крошачку лёду*
*Рукі снежнай завеі даеш*
*Туліш смела мяне*
*І нясеш над зямлёй*
*На палях апускаеш*
*Сцішаеш свой бег*
*Я гляджу пакланяюся*
*Свету крычу*
*Прывітанне каханню*
*Прывітанне — зіма.*

**Вераніка Леанюк**

## Яднанне з прыродай

У старэнькай калысцы
З надмагільных карэнняў
Вырастала калісьці
Не адно пакаленне.

Пакаленні ўміралі,
Хто старым, а хто юным,
З прахаў іх вырасталі
Зноў калыскі і труны.

**Віктар Швед**



### О, ТЫ!

Ішла по звялых сьвятлах
вэчыырнёго звуку.
На тіелі запалюваліся
на пэрэміен
раз тэплы — раз зімны зоры.
О, ты!
— котора в очах стлумяных
выліваеш соловійнны крык,
пэрэшыла мэнэ капрысом губ,
уліла у кров натхнэнне.
Рукі, як лісце,
росплывалісь
по нагості
тіела,
а очы прымыкалісь у задымці роскошы.
Хоч — нэ хоч,
а доспіыэ ядро досконалосці
трэба роскусіты в пору.
✲
У рытме молодосці
выгінаем характэр
і раптом урываецця страх.
Стаем собою.

**Ваня Кірызюк**

* ✲ *

*Ужо хутка*
*зеленню здаецца*
*закінуты я буду*
*і знаць не прыдзецца тады*
*ці зелень я*
*ці чалавек*
*шчаслівы*
*добра, калі адным і другім*
*стану*
*я зеляніўся б так*
*як ранняя пасевы ў полі*
*гуляўшы як усе*
*і ўсё на свеце*
*калі пачуе...*
*калі настане*
*яго час.*

**Юра Харкевіч**

* ✲ *

Шчасце
птушкай залётнай
заўсёды кружыць
блізка.
Дражніцца —
узляціць, знізіцца,
пакратае...
Мала хто
здолее яго злавіць.
Некаторыя
ловяць толькі
прывід,
каб пераканацца,
што ў руках
няма нічога.

**Алесь Свісёк**




Мару аб збажынцы ў Аляксандраўскім палетку, учараваный у словы мае напісаныя... Але словы, бы камені, кладуцца то ў апавяданне пра вывадак нешчаслівы, то ў роспач валошкі васільковай, пакінутай ветрам асеннім, то ва ўрачыстае жыццё пастуха Супруна, якому свет з балячкамі гарадоў зайздросціць павінен; іншы раз склалі вобраз святы Кіры-пані, то зноў годнасць нябесную Белавежы, харастве некранутага каралевы, або сум хаты дзяцінства ці пакінутасць ліп старэючых у Барсуковіне, у айчыне пекнаты і цішы.

У Аляксандраўскім палетку на загоне бацькоўскім, пачуццяў маіх збажынка.
Адзінокая, як жыццё.
Ціхая, як мудрасць.
Пахіленая, як лёс.
Зялёная, як свет...

**Сакрат Яновіч**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Пачатак на стар. 1

# На сцэне моладзь




— Мы з Кавердам сабралі моладзь усёй вёскі і пастанавілі выступіць з п'есай. Пасля зайшлі ў ПДК і БГКТ у Бельску. Яны ў адным памяшканні. Выбралі „Пярэстую красулю“, „Боты“ і некалькі песень ды вершаў. Людзям спадабалася. ПДК запрапанаваў, каб мы прынялі ўдзел у павятовым аглядзе аматарскіх калектываў. Была ў нас на рэпетыцыі пані Анджэйчук з ПДК і сказала, што калектыў можа выступіць. Паехалі, выступілі. Акцёрская ігра была добрая, але падборка рэпертуару не адпаведная (трэба было прысвяціць 30-годдзю ПНР). Далей мы з гэтым рэпертуарам не маглі паехаць. І тут прыйшла прапанова ад БГКТ. Вось так і сталася. А заслуга мая такая, як і ўсіх.

Так сказаў Янак. А ўсё ж такі, цікавіла мяне, хто і як дапамагаў маладым артыстам. Спадзяваўся я, што, паколькі Катлы ад Бельска ў 3—4 кіламетрах, то тут штораз бывалі тэатральныя інструктары ды прадстаўнікі БГКТ. З таго, аднак, што ўдалося мне ўстанавіць — адзін раз была прадстаўніца ПДК, а з БГКТ не было нікога.

Але маладыя людзі знайшлі дасканалага памочніка ў дырэктару школы. Пані дырэктар пазычыла ім свае пласцінкі з запісамі акцёраў беларускай сцэны ў Мінску. Слухалі разам і стараліся імітаваць голас ды націск майстроў прафесіянальнай сцэны.

На БГКТ-оўскі агляд у Бельску ехалі з рознымі пачуццямі, але пасля выступленняў, яшчэ да ацэнкі журы, ведалі, што атрымаюць першае месца. Не памыліліся. І ад таго часу распачалася цяжкая праца — рэпетыцыі, якія адбываліся амаль штодзень.

А арганізаваць іх не было лёгка. Янка Малішэўскі (шавец) — гэта работнік гміннай спулдзельні ў Бельску. Для інфармацыі дадайма, што аказаўся ён на аглядзе ў Бельску найлепшым акцёрам. Аліна Асташэвіч (жонка) працуе на пошце аж у Аўгустове, Яўгеній Каверда (салдацюга) з'яўляецца вучнем Тэхнікума сельскагаспадарчай рахунковасці, а Мікалай Пацэвіч (Траяк) — вучнем ЗСЗ у Бельску.



*Канчатковая сцэна (злева) М. Пацэвіч, Я. Каверда, А. Асташэвіч і Я. Малішэўскі.*



*Стваральнік калектыву Янак Гушча.*

Моладзь мае планы на будучыню. Яшчэ сёлета плануюць арганізаваць фэстын у Катлах. Хаця здаюць сабе справу і з таго, што раней ці пазней трэба будзе расстацца. Як гаворыць Гушча: „Таіса ўжо закончыла „агульняк“ і, думаю, будзе шукаць нечага далей, ды і я пасля матуры маю свае планы. Але пакуль што трымаемся і добра нам з гэтым“.

**Аляксей Карпюк**
**Фота аўтара**

## Добра адпачыць на Беласточчыне!

Паважаная рэдакцыя!

Я ўжо два гады нашуся з думкай, каб напісаць табе ў справе, якую выкладаю ніжэй.

Думаю аб вялікай групе беларусаў, раскінутых па ўсёй Польшчы, якія цалкам затрацілі кантакт са сваімі. Я прыйшоў да некаторых вывадаў і з дапамогай „Нівы“ хачу зрабіць такія вось прапановы:

— Выбраць адну-дзве беларускія вёскі, якія лепш загаспадараны, знаходзяцца ў здаровым месцы, дзе б трохі і лесу, і вады было, дзе б можна было закватэравацца і з'есці хоць абед (маю на думцы гасподу). Аб'явіць гэта ў „Ніве“ і распрапагандаваць, што ў гэтыя вёскі можна прыехаць у водпуск і адпачыць на роднай староньцы.

— Добра было б у зімова-веснавыя месяцы ўвесці ў „Ніве“ пастаянную рубрыку, у якой падаваліся б весткі, як і куды можна прыязджаць на адпачынак, а таксама адрасы гаспадароў, якія ахвотна прымуць гасцей.

Думаю, што скарысталіся б такой формай адпачынку многія, і абодва бакі былі б задаволены.

**В. Мартыновіч**
**Гліўіцы**

**Ад рэдакцыі.** На нашу думку, прапановы цікавыя, і варта пагаварыць аб іх шырэй на старонках „Нівы“.

**БЕЛАРУСІЯНА**

## „Творчасць“ аб зборніку М. Багдановіча

У красавіцкім нумары вядомага літаратурнага месячніка „Творчасць“ змешчан рэцэнзійны артыкул „Беларускі класік“ — пра выбраныя вершы вялікага Максіма Багдановіча ў перакладзе на польскую мову, выданыя асобнай кніжкай Лодзінскім выдавецтвам.

У гэтым артыкуле напісана:

„У прадмове Яна Гушчы да гэтай кніжкі знаходзім сітуацыйны штрых беларускай культуры ў канцы мінулага стагоддзя, калі літаратурная мова беларускага народа, яшчэ не цалкам выснаваная з гутарковай мовы, з народнага дыялекта, захопленая магутнасцю русізмаў, абмежаваная ўбоствам уласнай лексікі, гнулася пад націскам матрыцы паэтычнага канона. Лірыка Максіма Багдановіча з'яўляецца, менавіта, тым вогненным выпрабаваннем характару мовы, ад якога залежыць яе далейшае жыццё“.

І далей:

„Максім Багдановіч, сын Адама Багдановіча, вядомага вучонага, этнографа, быў беларускім інтэлігентам у другім пакаленні і сваімі ведамі ды зацікаўленнямі ахопліваў ужо шырокі дыяпазон культуры. З'яўляўся ён інтэлектуалістам-гуманістам, тэарэтыкам і літаратурным крытыкам. У паэзіі аднак жа не адыйшоў ён ад непасрэднай наіўнасці народнага ўяўлення. Не павінна гэта здзіўляць. Паэзія кіруецца ўласнымі законамі. Ступень развіцця мовы накідвае паэзіі яе фармальны выгляд. Паэт, каб застацца паэтам ды не пераўтварыцца ў вучонага вершаскладальніка, павінен паддацца гэтым законам. І гэтая падатлівасць інтэлектуаліста законам паэзіі прыдае вершам Максіма Багдановіча прыгажосць не вывучаную, але яшчэ прыроднай прастаты. Ян Гушча цудоўна перакапіяваў гэту прастату на польшчыну“.

Ва ўспомненым артыкуле нагадваецца пра выключныя сувязі Багдановічавай паэзіі з Верленаўскай паэзіяй, як пра адну з характэрных праяў уплыву „музыкі перад усім“ на маладую, амаль дзіцячую літаратуру. У літаратурах дарослых — больш прыцягальны вобраз чымсь гук.

**Сакрат Яновіч**

## Родная зямелька — як зморанаму пасцелька

Айчыне — вёсцы — сабе

## „Вясна чынаў“ ЗСМВ

Пад лозунгам „Айчыне—вёсцы—сабе“ праходзіць у гэтым годзе „Вясна чынаў“ Саюза сялянскай моладзі.

Актыўна ўдзельнічае ў ёй моладзь Гайнаўшчыны. У гміне Кляшчэлі ЗСМВ-оўская моладзь пасадзіла 16 гектараў лесу на непрыдатных для вырошчвання сельскагаспадарчых культур адлогах. Пры пасадцы лесу асабліва шмат было дзяўчат і моладзі з мясцовай сельскагаспадарчай школы.

Восем гектараў лесу пасадзілі члены ЗСМВ (у тым ліку моладзь з Ляснога тэхнікума) з Белавежы. Лес пасадзілі юнакі і дзяўчаты з прыпушчанскай вёскі Ліпіны на плошчы 4,4 га. Не меншы быў удзел у пасадцы маладняку моладзі з вёсак Тапаркі і Дабрывада.

Моладзь садзіла дрэўцы паабапал дарог, ля клубаў і святліц. Найбольш тут зрабіла моладзь з вёсак Волька Тэрахоўская, Чыжы, Махнатае, Дабрывада, Чаромха.

Пры пабудове і рамонце дарог, клубаў, стражацкіх раміз, стральніц і спартыўных стадыёнаў найбольш працавалі ЗСМВ-оўцы з вёсак Дашы, Вітава, Стары Корнін, Махнатае, Дубіны, Новае Беразова, Навасады, Сакі, Макаўка, Тарнопаль, Асоўка і Койлы.

Моладзь з Крыўца ўпарадкавала пачакальню на аўтобусным прыпынку ПКС Кутова. Пабяліла яна „трохсценку“ вапнай і зрабіла дзве лавачкі для пасажыраў.

(ця)




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА II

У перыяд рэвалюцыі 1905—1906 гадоў Багдановіч моцна актывізаваўся палітычна. Услед за сваім старэйшым братам Вадзімам, які належаў да гуртка анархістаў, таксама і Максім зрабіўся анархістам. Бацька паэта піша, што ва ўсім гэтым было больш гульні, чым палітыкі. Максіму было ў той час усяго 14—15 гадоў і, зразумела, не меў ён яшчэ строга акрэсленай сістэмы палітычных поглядаў. Не можа, аднак, быць сумненняў у тым, што быў ён праціўнікам рускага самадзяржаўя. Багдановіч актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх сходах, мітынгах, дэманстрацыях, петыцыях, якія мелі месца ў Ніжненоўгарадскай гімназіі. Максім быў замешаны ў даволі сур'ёзную справу, звязаную з выбухам у гімназіі бляшанай банкі, напоўненай порахам. Некалькі дзён пасля гэтага выпадку кіраўніцтва гімназіі атрымала ананімны ліст, у якім гаварылася: „Панове выкладчыкі! Мы, узрыўнікі, заяўляем, што выбух быў формай пратэсту проціў рэакцыйнага захавання тых вучняў, якія не схацелі ўшанаваць памяць загінуўшых 18—19 кастрычніка 1905 года барацьбітоў за свабоду“.

Аказалася, што арганізатарам выбуха быў сябра Багдановіча Дзмітры Крылоў. Калі Крылоў быў затрыманы, Багдановіч пабег на яго кватэру і стараўся з яе забраць усе прадметы, якія маглі б скампраметаваць сябра. Не паспеў аднак усяго забраць і ў часе вобыску былі знойдзены кампраметуючая перапіска і паяльнік. На гэтай падставе Крылоў быў пасаджаны ў арышт на чатыры месяцы. Гімназійныя ўлады правялі расследаванне ўдзелу ў гэтай справе Багдановіча. Максім вёў сябе адважна. Рашуча бараніў свайго сябра. У 1908 годзе бацька паэта мусіў пераехаць з Ніжняга Ноўгарада ў Яраслаўль. У сувязі з гэтым Максім пераевёўся ў Яраслаўскую гімназію. Уладам гэтай гімназіі паведамілі аб палітычным бунтарстве Максіма, і таму яго не хацелі прыняць. Урэшце прынялі. Багдановіч, згодна са сваімі ніжненоўгарадскімі прывычкамі, нярэдка спазняўся на заняткі, выходзіў з класа, размаўляў з сябрамі ў часе ўрокаў. Усё гэта, разам з вольнадумствам, было прычынай новых канфліктаў з настаўнікамі гімназіі. Урэшце аднак усё ўладкавалася і ў 1911 годзе Максім закончыў васьмікласны курс гімназіі і атрымаў атэстат сталасці з наступнымі ацэнкамі:

| | |
|---|---|
| Закон божы | — 3 |
| Руская і стараславянская мовы | — 5 |
| Філасофская прапедэўтыка | — 4 |
| Лацінская мова | — 3 |
| матэматыка | — 3 |
| матэматычная геаграфія | — 3 |
| фізіка | — 4 |
| гісторыя | — 4 |
| геаграфія | — 4 |
| заканадаўства | — 5 |
| нямецкая мова | — 3 |
| французская мова | — 3 |

Бацька паэта падкрэслівае, што Максім вельмі цікавіўся мовамі і добра ведаў французскую і латынь, разбіраўся нядрэнна ў нямецкай, грэчаскай, італьянскай і польскай мовах.

Варта паінфармаваць чытачоў аб тым, што ў архіве „Нашай нівы“ ў Вільні захавалася паштоўка Багдановіча, высланая на прозвішча вядомага беларускага дзеяча і вучонага Вацлава Ластоўскага, у якой Багдановіч піша, што намерваецца заняцца вывучэннем польскай мовы і ў сувязі з гэтым просіць прыслаць польскія кнігі. Асабліва цікавіла яго кніга польскага даследчыка Л. Васілеўскага „Літва і Беларусь“. Можам думаць, што Ластоўскі выслаў Багдановічу патрэбныя кнігі.

Трэба лічыць парадаксальным той факт, што Багдановіч ведаў так многа еўрапейскіх моў і даволі слаба ведаў беларускую мову. Не магло аднак быць па-другому. Багдановіч быў адцяты ад жывых крыніц беларускай мовы, а ў тым часе, калі ён жыў, не было падручнікаў па гэтай мове. У такой сітуацыі Багдановіч вывучаў беларускую мову, чытаючы „Нашу ніву“ або фальклорныя беларускія зборнікі. Вывучаў сам, без настаўнікаў, без падручнікаў, без дапамогі.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Куток практычных ведаў




### ПАЧУЦЦЁ РЭЎНАСЦІ

Мы часта чуем размовы аб каханні, аб рэўнасці і вернасці. Адны гавораць, што без рэўнасці няма кахання. Іншыя сцвярджаюць супрацьлеглае: рэўнасць паніжае чалавека і знішчае каханне. Цяжка сказаць, хто мае рацыю.

Само слова „рэўнасць" можа абазначаць два розныя паняцці. Адно — гэта пачуццё, перажыванне. Напрыклад, вы шукалі блізкага чалавека, з якім хацелі падзяліцца нейкімі думкамі, хваляваннямі, але, знайшоўшы яго, вы бачыце, што ён ажыўлена гаворыць з кімсьці іншым і просіць вас пакуль не перашкаджаць. Зразумела, што ў гэты момант вы можаце адчуць нейкае расчараванне, нецярплівасць і... рэўнасць.

У другім значэнні рэўнасць — гэта не хвілёвае перажыванне, якое ўласціва кожнаму чалавеку, а рыса характару або ўстойлівыя адносіны аднаго чалавека да другога.

Псіхолагі самых розных напрамкаў сходзяцца на тым, што раўнівы характар — гэта вынік дыспрапорцыі псіхічнага развіцця, нераўнавагі ўнутраных сіл і магчымасцей чалавека. Найчасцей бывае так, што занадта раўнівыя людзі альбо вельмі агрэсіўныя, маюць непамерныя прэтэнзіі, хваравіта самалюбныя, дасягаюць поўнага кантролю над любімым чалавекам, хочуць у поўным сэнсе слова валодаць ім. Альбо наадварот, гэта людзі, якія тояць у глыбіні душы страх, няўпэўненасць у сабе, апасенне стаць ахвярай хлусні. Адным словам, яны, такія людзі, або занадта моцныя і напорыстыя, або занадта слабыя і хваравітыя. Так ці інакш, рэўнасць як агульная якасць характару — заўсёды трывожны і небяспечны прызнак.

Рэўнасць адпіхае, паніжае, становіцца прычынай розных сварак, падазрэнняў і „шпіянажу", які найчасцей бывае смешны і бескарысны. Пастаянныя роспыты з недаверам, гатоўнасць да скандалу — даволі частая прычына хлусні: калі праўдзе не вераць — прыходзіцца хлусіць больш прыемліва для раўнуючага боку.

Рэўнасць другога віду, якая звязана з падсвядомым перажываннем сваёй непаўнавартасці, — амаль трагедыя. Моцнае і глыбокае каханне прымушае ідэалізаваць тых, каго кахаюць, прыпісваць ім нават і неіснуючыя вартасці і рысы характару. Чалавек тады гатовы глядзець знізу ўверх на каханага. І тады пачынае думаць: „Ён (яна) такі цудоўны, а хто я? За што мне такое шчасце? А можа спаткае ён кагосьці лепшага? Трэба трымаць яго ў руках".

Прыблізныя спробы акрэсліць, хто часцей раўнуе — мужчыны ці жанчыны, не далі вынікаў. У гэтым пытанні бадай няма розніцы. Усё залежыць ад сацыяльнай структуры грамадства. Там, дзе жанчыны нераўнапраўны, яны, зразумела, часцей становяцца ахвярамі рэўнасці-недаверу ці рэўнасці-падпарадкавання. Мужчыны ж часцей дэманструюць рэўнасць, ідучую ад празмерных прэтэнзій, лягчэй аказваюцца аб'ектам унушэння і правакацый з боку інтрыганаў.

Рэўнасць, як іржаўчына, можа раз'есці вузы кахання, сяброўства, узаемнага даверу. А без даверу, без пашаны цяжка будаваць правільныя сямейныя адносіны.

Ну што ж, але некаторыя гавораць, што каханне без рэўнасці, як дыханне без паветра! А ўсё ж у сем'ях, дзе няма рэўнасці, сямейнае жыццё працякае больш гарманічна.

**Эскулап**




### МАЯ АДЗІНАЯ

*Я помню твой выгляд*
*твой твар*
*тваe вочы і бровы і губы*
*я помню і не забуду*
*ніколі*
*што Ты*
*мая адзіная*
*Мама!*

**Сцёпа Палаўянюк,**
**Бельск**

### МАМО, ЧОМ ТО ТАК?

Міла мамо моя, ты мэнэ уродыла,
Но нэ знаў я тэбэ і нэ знаю.
Ты ўмэрла, як я буў шчэ малый,
Чы ты так торопылась до раю?

У тэбэ якось так получылось,
Шчо всёму будто я выноваты,
Бо лягла ты собе, як царыца,
Одтоўкнуўшы мэнэ, як нэ маты.

Людэ кажут, шчо лазіў по грудях
І сэпленіў у слёзах „ціці дай".
А ты спала й словца нэ сказала,
Бо тобе выдно ўжэ сныўся рай.

Коб ты знала, як я буду жыты,
То б покінуты так нэ могла.
Ты лічыла, шчо мною займуцца,
Но найлепы було б, каб з собою взяла.

Я ходыў ўсё голодны, обдэрты,
А і быў мэнэ хто но хотыеў.
Спаў, дэ нуочка мэнэ прыгорнула
І до школы зусыем нэ ходыў.

Як ішоў ужэ служыты до вуойска,
Нэ вэла мэнэ маты з сэла.
Нэ дала на дорогу мне хлеба.
І пысьма од мэнэ нэ ждала.

Пузніей лепы було, нэ зрумняеш,
Оно прошлого хвуост нэ згубыты.
Так шчо мамы, которы уродят,
Мусят доўго на светы прожыты.

**Васіль Петручук**



**КІНО**

## „Узнагароды і ордэны"

Кінафільм польскага дакументаліста Я. Ламніцкага „Узнагароды і ордэны" экранізаваны паводле папулярнай повесці В. Білінскага пад тым самым загалоўкам. Акцыя яго адбываецца коратка пасля вызвалення ў прыфрантавой бальніцы, куды трапілі раненыя салдаты. Фільм паказвае трагічныя перажыванні герояў-пацыентаў і работнікаў бальніцы, заблытаных у гісторыю, у складаныя абставіны палітычнага пералому. Іх перажыванні даюць вобраз першых дзён Народнай Польшчы. Гэты фільм варта паглядзець. (ця)

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я пазычыў жняярку свайму суседу В. Ён пакінуў яе на полі, з яе тады скарыстаўся Х.; ён самавольна ўзяў яе і, карыстаючыся, сапсаваў. Рамонт каштаваў мне звыш 1000 зл. Аднак ані В., ані Х. не хочуць мне звярнуць коштаў рамонту машыны, звальваючы віну адзін на другога. Хто з іх павінен звярнуць мне грошы?

АДКАЗ: Звароту коштаў рамонту машыны можна патрабаваць і ад В., і ад Х. Паколькі В. пазычыў жняярку, ён згодна з законам павінен звярнуць яе такой, якая яна была. Ён павінен быў аддаць машыну ў рамонт і заплаціць за яго. У гэткім выпадку яму прыслугоўвала б права патрабаваць ад Х. звароту яго расходаў. Аднак уладальнік машыны можа патрабаваць кампенсацыі непасрэдна ад Х., які прычыніў шкоду. Можна таксама дамагацца праз суд заплаты ад В. і Х. разам. У гэтым выпадку заплата адным з іх звальняе ад абавязку другога, што не азначае, што Х. у канчатковым разліку будзе абавязаны да кампенсацыі шкоды.

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне толькі 19 год, а ўжо год часу я замужняя. З Генікам, маім мужам, пазнаёмілася я ў сяброўкі на вяселлі. Генік працаваў у горадзе, а я жыла на вёсцы. Прыязджаў некалькі разоў да мяне, быў ветлівы, мілы. Пакахала я яго, і здавалася, што ў свеце няма другога такога хлопца. Пасля кароткага знаёмства мы пажаніліся. Але я надалей жыву на вёсцы, а Генік у горадзе, мяне толькі час ад часу наведвае. Абяцаў, што ажаніўшыся, адразу знойдзе кватэру ў горадзе і мяне да сябе забярэ. Ужо мінуў год, а Генік усё кватэры не можа залатвіць і не спяшаецца, каб мяне да сябе забраць. Ды і адносіцца да мяне інакш, як калісьці. Рэдка прыязджае, а калі ўжо і прыедзе, дык нават на забаву са мной не хоча пайсці. А вось нядаўна атрымала я ад яго ліст, у якім піша, што мае іншую дзяўчыну, яе кахае, і, каб я згадзілася на развод, дык бы і ажаніўся з ёю. Гэтага дык я ніколі па Геніку не спадзявалася. Страшэнна перажываю. Начамі не сплю. Не магу знесці гэтага гора. Я кахаю Геніка. У нас маленькі сын. Ён жа не толькі маці, але і бацькі, як падрасце, патрабаваць будзе. Не ведаю, як жыць далей? Што рабіць, каб утрымаць пры сабе Геніка?

**Зіна з Бельшчыны**

Зіна! Вельмі рана паспяшалася ты замуж, да таго і хлопца добра не пазнаўшы. А самае горшае дык тое, што пасля шлюбу вы надалей жылі асобна, далёка адно ад другога. А гэта часта бывае прычынай разводаў маладых людзей, ды і не толькі маладых. Раю табе, Зіна, паехаць да мужа і сур'ёзна пагаварыць з ім. У вас жа ўжо сям'я. Думаю, Генік зразумее сваю памылку, а тады, неадкладна пашукайце кватэру, каб абавязкова жыць разам.

**„Сэрцайка"**




Пачуліся павольныя крокі. Яфімцаў сціснуў у кулаку стальны прэнт, сабраўшы ўсю сваю сілу. Але вартавы раптам быццам адчуў пагрозу і павярнуў назад. На ілбе Яфімцава выступіў пот. Выйсці і падкрасціся да вартавога — бескарысна: неўзаметку не нападзеш, а адкрыта палезці — нельга: прэнт супраць аўтамата — не зброя. Трэба чакаць. А што, калі ён увогуле не пойдзе каля дзверцаў?

Але вартавы наблізіўся да іх.

Усё астатняе адбылося імгненна. Яфімцаў хапіў вартавога за ногі і рвануў да сябе. Той упаў, і прэнт з усёй сілай апусціўся на яго галаву. Забраўшы аўтамат і гранаты забітага, Яфімцаў увайшоў у хату. Хата была, відаць, асноўным прыстанкам бандытаў. Тут знаходзіліся і адзенне, і зброя, і харчаванне.

Першай думкай у Яфімцава было неадкладна бегчы на заставу і прывесці сюды сваіх. Але ён тут жа адмовіўся ад гэтай думкі. Наўрад ці прабярэшся адзін праз багну, а калі і прабярэшся, то, бадай, будзе позна — банда можа схавацца. І тады ўзнікла новае рашэнне: сустрэць банду тут, у хаце, аднаму. У куце стаяў ручны кулямёт, каля яго ляжала некалькі патронных дыскаў і кучка гранат.

Яфімцаў узяў кулямёт і ўладкаваў яго ў акне, паднёс бліжэй дыскі і расклаў гранаты. Зарадзіў і праверыў кулямёт — усё было ў парадку. Ён нават усміхнуўся, бо яму прыгадаўся адзін выраз з настаўлення па станкавым кулямёце сістэмы „Максім". Выраз, падобны на афарызм, таму, напэўна, і запомніўся: „Кулямёт, — гаварылася ў настаўленні, — недаступны для пяхоты праціўніка, пакуль ёсць патроны і жывы хоць адзін кулямётчык".

— Чуеце, пан паручнік, — сказаў Яфімцаў уголас. — Не-да-ступ-ны!

Пра агаворку „пакуль жывы кулямётчык" Яфімцаў не думаў. Пашкадаваў толькі, што не можа папярэдзіць сваіх і што няма з ім нікога з хлопцаў. А як бы тут дарэчы былі стрыманы і спакойны снайпер Максак, або вопытны сяржант Гарадноў, або нават нялоўкі і блізарукі Дзегцяроў. Ніякая банда была б нястрашная. Але нікога з іх не было. Яфімцаў — адзін.

На асветленай сонцам паляне панавала цішыня. Але Яфімцаў ведаў, што гэтая цішыня можа парушыцца ў любую хвіліну, і пільна ўглядаўся ў тое месца лесу, адкуль ён упершыню ўбачыў гэтую хаціну. Так, запомняцца яму і гэтая паляна, і гэтая хата, і гэты лес на ўсё жыццё, калі толькі...

Яфімцаў злёгку ўздрыгнуў. На ўзлессі паказаліся людзі, і яны проста кіравалі праз паляну да хаты. Яфімцаў пазнаў сярод іх высокага рыжага паручніка, брата Стасі. А дзе ж сама Стася? Яе не было відаць, і Яфімцаў уздыхнуў. Ён прыпаў да кулямёта і павёў ствалом па пярэдніх бандытах. З грукатам раскалолася лясная ціша, замітусіліся на паляне людзі. Яны падалі, нешта крычалі, уцякалі назад, да лесу. А кулямёт злосна біў кароткімі чэргамі, пакуль на паляне нікога не засталося, акрамя забітых і параненых. Уцалелыя бандыты схаваліся ў лесе, напэўна, страшэнна здзіўленыя нечаканай сустрэчай.

Але вось на краю паляны заблісталі агеньчыкі стрэлаў — ударылі разам два кулямёты. Кулі свісталі, упіваліся ў бярвенні хаціны, дзынькалі разбітыя шыбіны.

Пад прыкрыццём кулямётнага агню бандыты пайшлі ў атаку. Яны прасоўваліся на паляне кароткімі перабежкамі, і Яфімцаў адзначыў, што банда Вышаслаўскага дзейнічае па ўсіх правілах тактыкі, як сапраўднае армейскае падраздзяленне. Ён не перашкаджаў бандытам, але як толькі яны падняліся для апошняга кідка, зноў пачаў біць доўгімі чэргамі і адкінуў наступаўшых у лес.

І тады яны пайшлі на вядомы фашысцкі прыём. На паляне з'явілася Стася. Яна ішла ва ўвесь рост з непакрытай галавой і была падобная на сланечнік, асветлены сонцам. За ёю, прыгнуўшыся, асцярожна ступала шэрая постаць.

Яфімцаў не адразу зразумеў, што гэта значыць, а калі здагадаўся — сціснуў кулямёт так, што стала балюча пальцам.

— Што робяць, нягоднікі, што робяць! — мармытаў ён сабе. Нішто не перашкаджала яму зараз націснуць на спуск, бо Стася, урэшце, была з бандытамі, а не з ім, і калі ён пашкадуе яе — загіне сам. Дзеля чаго? Яфімцаў разумеў: трэба страляць і — не мог страляць.

А дзяўчына ўсё набліжалася. За ёю перабежкамі пасоўваўся ланцуг банды Вышаслаўскага. Яфімцаў зірнуў у проразь прыцэлу, убачыў шырока раскрытыя Стасіны вочы — і апусціў галаву. Не, не будзе ён страляць, не можа.

Стася прыпынілася.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

## Белавежскія змены

Вельмі многа змянілася ў Белавежы за час народнай улады. Людзі пабагацелі, пабудавалі шмат прыгожых, мураваных будынкаў. Амаль у кожным доме ёсць тэлевізар.

Важнейшыя белавежскія вуліцы атрымалі асфальтавую паверхню. Пабудаваны гасцініца „Іва“, Інстытут даследавання млекакормячых, кніжны магазін, дом паляўнічага, рэстараны, крамы. У новыя памяшканні перайшлі: прыродазнаўчы музей, Лясны тэхнікум, дзетсад, пякарня, каўбасная. Урэгулявана рака Нараўка і праведзена меліярацыя лугоў. За апошні час ліквідавана цераспалосіца. У гарадку закладзен таксама водаправод.

Гэта галоўныя змены. Драбнейшыя цяжка і палічыць. Зараз вядзецца будова новага памяшкання для геабатанічнай станцыі і перабудова паказнога запаведніка зубраў. Працягваюцца работы пры аднаўленні сажалак.

У будучыні прадбачыцца пабудова новага цэнтра здароўя, а таксама інтэрната і сталовай для Ляснога тэхнікума.

**Пётр Байко**

## МЛЫНАР

У колішняй кузні „гому“ ў Дубічах Царкоўных змяшчаецца млын. Амаль ад самага пачатку млынаром працуе Уладзімір Герасімюк з Дубіч Царкоўных. Даўно ён распачаў гэтую працу і вельмі зжыўся з ёю.

У млыне чысціня і парадак, і млынар ганарыцца гэтым. Людзі далёка ведаюць гэтага чалавека і вельмі паважаюць яго. Штодзённа каля млына стаяць фурманкі сялян са збожжам. Людзі тут часу не трацяць, таму што млынар кожнаму змеле хутка і спраўна. Апрача таго, амаль кожнаму паможа знесці мяшкі са збожжам на вагу, а пасля з мукою занесці на воз. Гэта зусім не яго абавязак, але, як сам кажа, „не магу глядзець, калі чалавек томіцца і не кожны сам зацягне свой груз да дзвярэй“. І ён людзям дапамагае.

Хочацца адзначыць і тое, што ў млынара залатыя рукі. Ён дасканалы сталяр, і ўвогуле, на што гляне, тое зробіць.

**М. Панфілюк**

## Бяда без яек, бяда і з імі

У Бабіках на Сакольшчыне ёсць гмінная крама. Яна была нядаўна пабудавана, вялікая. Бліжэйшыя вёскі — Мішкінікі, Часновічы і іншыя купляюць у гэтай краме ўсе тавары. На жаль, крама не вядзе скупкі яек. Вёска Бабікі вымушана насіць яйкі на продаж у краму ў Кнышэвічы, або ў Сухінічы. Выбіраюць людзі, куды бліжэй, куды лепш даехаць ці дайсці. І так носяць прадаваць яйкі ў чужыя вёскі. А чаму б у такой вялікай гміннай краме, як цяперашняя бабіцкая, не адкрыць пункту скупкі яек?

**Т. К.**

---

— Ну-ну, уперад! — штурхнуў яе ў спіну Уладыслаў. — Яшчэ крыху.

— Я не магу, Веслаў, я не пайду.

— Ну, ідзі!.. А, табе салдата шкада. А мяне не шкада? Уперад!.. Або я застрэлю цябе, як твайго паршывага...

— Што-о? — са страшным шэптам павярнулася Стася да брата. — Што ты сказаў?

Уладыслаў зразумеў, што балбатнуў лішняе, але было позна. І ён пайшоў напралом.

— Так, так, гэта мы яго забілі.. браточка твайго. Чаго глядзіш? Ідзі!

Стася раптам адскочыла ў бок.

— Страляй, жолнеж, страляй! — крыкнула яна і ўпала ў траву.

Паручнік кінуўся да хаты. Яфімцаў спазніўся са стрэлам, і Вышаслаўскі аказаўся ў мёртвай прасторы. Яфімцаў шпурнуў гранату, але таксама было позна. У гэты час зноў пачалі біць кулямёты бандытаў, і Яфімцаў не мог узняць галавы. Усё ж зрэдку ён адстрэльваўся, не падпускаючы нападаўшых.

У хаце нечакана запахла гарам, а з-пад дзвярэй пачаў валіць дым. Было ясна: паручнік Вышаслаўскі падпаліў хату.

— Усё роўна не возьмеце, сволачы, — шаптаў сам сабе Яфімцаў, — жывым не дамся.

Але бандыты і не думалі браць яго жывым, яны чакалі, калі зробіць сваю справу агонь.

(Працяг будзе)

## Камінар чысціць гаспадарам... кішэні

*Трымайся за кішэню,*
*Бо камінар ідзе.*
*Ён комінаў не чысціць,*
*А грошыкі бярэ.*

Некалькі год таму назад вялікую вёску Чыжы ў Гайнаўскім павеце вельмі рэдка наведвалі камінары. Але ад мінулага года ўнадзіўся нейкі камінар і пачаў наведваць яе дакладна раз у месяц. Камінар бярэ па 8 зл. ад кожнага гаспадара і выпісвае квітанцыі за чышчэнне комінаў, якіх ён зусім не чысціць. Коміны чысцяць самі гаспадары. І яны зусім не ведаюць, за што плацяць камінару. Людзі гавораць, што калісьці абавязкова плацілі падатак за вокны, а сёння плацяць за коміны.

Калі ўжо так сапраўды ёсць, дык мне здаецца, што „пункты камінарскіх паслуг“ павінны хаця пераапрануць сваіх людзей у чыстыя касцюмікі з эланы, белыя кашулі, жартаўліва званыя „ойра-ойра“ і шаўковыя гальштукі, прыдаўся б да гэтага капялюшык з гусіным пяром. Камінар у такой вопратцы не быў бы ў народзе „мурзай“, а проста сучасным камінарам (які не чысціць комінаў) і хапіла б яму адной торбы-рапартоўкі. Навошта насіць на плячах сталёвую 20-кілаграмовую бомбу, лінку і калючую драцяную шчотку. Зусім непатрэбны цяжар.

**Я. М.**

Паведамляю рэдакцыі „Нівы“ яшчэ аб тым, што 21 красавіка г.г. у нумары 16(947) была змешчана недакладная інфармацыя аўтара „Раса“ п.з. „Патрэбны пачакальні ПКС“, у якой было напісана: „Пачакальняў на прыпынках ПКС няма ў многіх гайнаўскіх вёсках. Назавем тыя вёскі: Збуч...“ Хачу сказаць, што ў Збучы на прыпынку ПКС пачакальня ёсць ужо вельмі даўно. **(я. м.)**

## На 30-годдзе ПНР

Усе ўстановы і фабрыкі стараюцца штосьці зрабіць у гонар 30-годдзя ПНР, нешта на памяць пабудаваць. Гмінная спулдзельня ў Крынках таксама не будзе апошняй у гэтым чыне 30-годдзя. Распачала яна будаваць гандлёвы павільён у вёсцы Вярхлессе. Будзе будаваць краму ў вёсцы Новы Востраў. У Крынках праводзіцца аднаўленне мясной крамы і ідзе будова рэстарана. У новай філіі ГС у Бабіках будуць пабудаваны склады.

**Т. К.**

## Кася Собчык у Міхалове

Вялікае зацікаўленне выклікала ў Міхалове выступленне Касі Собчык, Генрыка Фабіяна і групы «Уклад». Гасцявалі яны ў нас па запрашэнню Беластоцкай эстрады. Песні, музыка, дэкламацыі — усё падабалася. Перапоўненая зала міхалоўскага кіно «Чайка» выклікала на «біс» амаль кожны нумар.

У Міхалове гасцявалі ўжо многія эстрадныя калектывы, між іншым, «Чырвона-чорныя».

**Павел Гутнік**

## Птушкаферма ці што гэта?

У мінулым годзе Упраўленне горада Гайнаўкі прызнала 82 пляцы для пабудовы аднасямейных домікаў на пасёлку Падляшша. Гэта першы ў Гайнаўцы планавы пасёлак аднасямейных домікаў, будаваных пасля вайны. Усе новыя жыхары пасёлка былі задаволены. Пасёлак знаходзіцца блізка ад Белавежскай пушчы і ракі Лясная. Паветра тут чыстае, здаровае. А ўсё ж маюць людзі вялікі клопат.

Працаўнік гарадскога ўпраўлення (не ведаю, хто быў хрэсным) не занадта павярушыў мазгамі і новыя вуліцы на пасёлку ахрысціў, а вышэйшае начальства, не задумваючыся, зацвердзіла): Жабя, Кача, Генся, Індыча, Кужа (Жабіна, Качыная, Гусіная, Індзючая, Курыная).

Чытач можа скажа, якая ж розніца, не ўсё роўна, якая назва. А вось і не. На гэтых вуліцах ужо вырасла вялікая і важная праблема. Дзеці, як дзеці — у нейкай гульні паспрачаліся і пайшлі мянушкі: жаба-жаба, кум-кум, рэх-рэх. Так прызываюць тых, што з Жабінай вуліцы. А потым пачулася: га-га. У другім зноў канцы пасёлка адны на другіх прызываюцца, наследуючы качку: ква-ква-ква.

Не канец на гэтым. Ідзе вось хлопчык у кіёск, тата сказаў газету купіць. Хлопчык жыве на вуліцы Індычай. І толькі ўвайшоў ён на Гусіную, як ужо пачалі дзеці крычаць: гуль-гуль-гуль і гулькалі так, пакуль хлопчык прайшоў усю вуліцу. Уявіць сабе можна, што будзе ў школе, калі ўсе дзеці даведаюцца, як можна на хлопчыка прызывацца.

Пакуль не позна і назвы вуліц яшчэ не прыняліся, вялікая просьба да Гарадскога ўпраўлення горада Гайнаўкі: змяніце назвы вуліц на больш адпаведныя.

Якія? Многія грамадзяне Гайнаўскага павету аддалі сваё жыццё за народную ўладу. Іх імем можна гэтыя вуліцы назваць. Падаю тут некалькі прапаноў:

Вул. Мартынюка — салдата рэвалюцыі 1917 г. Матрос „Аўроры“. Радзіўся і памёр ў Новаберазове.

Вул. Панасюка — былы намеснік старшыні прэзідыума ПРН у Гайнаўцы. Жыў на вул. Ліповай. Памёр некалькі год таму назад.

Вул. Астапчука — старшына грамадзянскай міліцыі. Загінуў, умацоўваючы народную ўладу.

Вул. Дуньца — загінуў у радах МО ў Боцьках, у барацьбе з бандамі.

Вул. Несцярука — стары камуніст, адзначаны найвышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Вось яны, і ёсць яшчэ шмат іншых людзей, імя і чыны якіх трэба ўшанаваць у памяці пакаленняў.

А нашы ўлады ўшанавалі памяць жабы, гусі, качкі, індзюка і іншых птушак.

Хто заслужыў сабе імя — чалавек ці жаба?

Прашу рэдакцыю, памажыце, бо просьба жыхароў, каб змяніць назвы вуліц — справядлівая.

## Малочны бар

Хоць не адзін раз жыхары Гайнаўкі дамагаліся малочнага бару ў сваім горадзе, вельмі доўга не было яго. Вельмі доўга ніхто не займаўся гэтай справай. Не было памяшкання на бар. І так справа цягнулася, а патрэбы людзей усё раслі.

І вось нарэшце гэтыя патрэбы ўзяла пад увагу Акруговая малачарская спулдзельня ў Гайнаўцы, якая грамадскім чынам сваіх працаўнікоў пабудавала павільён на вул. Варынскага побач з рыбнай крамай. Тут будзе змяшчацца гайнаўскі малочны бар. Калі апошнія працы ў сярэдзіне будынка закончацца так хутка, як хутка пабудаваны быў павільён, малочны бар будзе адкрыты на 22 ліпеня г.г.

## Лекар і хворы

Многа было калісьці нараканняў на непаладкі ў цэнтрах здароўя. Нават было такое прыслоўе: „Каб лячыцца ў пшыходні, трэба мець конскае здароўе“. Але ў нас у Гайнаўцы такая апінія — гэта ўжо мінулае.

Выбраўся я неяк у абвадовую лекарскую амбулаторыю ў Гайнаўцы і аж анямеў з уражання: пачакальня, калідоры і кабінеты блішчаць чысцінёй. Няма чаргі пад акенцам рэгістрацыі хворых, дзе некалі чалавек стаяў гадзінамі.

Вядома, да лекара ідзе чалавек хворы, які не можа доўга стаяць у чарзе. Каб гэтага не было, у Гайнаўцы ўвялі запісы ад 7 гадзіны раніцы. Да дапамогі далі другую асобу ў гадзінах, калі прыходзіць найбольш хворых.

Лекары змянілі свае адносіны да пацыента. Нашы лекары мілыя, спачуваюць чалавеку і, як могуць, стараюцца дапамагчы.

Вось такі прыклад. Ужо выйшла з амбулаторыі многа медсёстраў і лекараў дахаты. У пачакальні, аказалася, сядзела адна старэнькая бабуля з-пад Нараўкі, якая не ведала, як дайсці да доктара. Заўважыў яе доктар П. Мароз, які сам выняў карту, папрасіў бабулю ў кабінет (было гэта ўжо пасля гадзін яго працы), абслужыў яе і запісаў лекі. Як жа задаволена была бабуля! Такі вось наш кіраўнік абвадовай амбулаторыі доктар П. Мароз. Многа добрых слоў пачуеш аб ім, чакаючы ў прыёмнай.

**Раса**

## Клуб селяніна ў Тарнопалі

Вёска Тарнопаль ляжыць у Гайнаўскім павеце. Хаты раскіданы на працягу некалькіх кіламетраў. Вёска налічвае звыш ста гаспадарак. Культурная і гаспадарная. Ёсць у вёсцы сельгастурток, вядомы кругом сваёй добрай работай, ёсць гурток ЗСМВ і вясковых гаспадынь.

Ёсць у вёсцы клуб селяніна, а ў клубе змяшчаецца бібліятэчны пункт з багатай падборкай сельскагаспадарчай літаратуры. Пункт мае 85 чытачоў — маладыя і старэйшыя асобы. Клубовай працуе Галіна Бельская. Яна вядзе таксама бібліятэчны пункт. У клубе працуе другі год. За працай у клубе сочыць рада клуба, якая складаецца з членаў ЗСМВ. Старшынёй з'яўляецца Ян Янель, а членамі Галіна Бельская, Зіна Лаўрэшук, Лена Янель. У клубе ёсць тэлевізар, магнетафон, радыё. Кожны дзень ад 16 да 22 гадзіны можна тут правесці час. Арганізуюцца ў клубе сяброўскія вечары, конкурсы і г.д. На сценах фотагазеткі, на полках выстаўка сельскагаспадарчай кніжкі, газеты.

Нядаўна быў у клубе музычны вечар. Клуб прымаў удзел у конкурсе „Найлепшы клуб селяніна“, які арганізуецца павятовым праўленнем ЗСМВ у Гайнаўцы.

Хоць моцна стараецца клубовая і рада клуба, не ўсё аднак у тарнопальскім клубе так, як хацелася б, каб было. Заснавальнік гэтага клуба — ГС у Нараўцы — часта забывае пра яго. Заказаныя тавары доўгі час не прывозяць, ніхто з ГС-у ў клуб не заглядае. Няма пранікаў, а цукерак у шакаладзе даўно ніхто не бачыў. Няма санітарных выгад, няма ні шахматаў, ні іншых гульняў. Адным словам, ГС у Нараўцы павінен памагчы тарнопальскаму клубу ліквідаваць недахопы. Будзе карысць для ўсіх.

**Адам Цэха**

## Нявыкарыстаныя зялёныя ўгоддзі

Сельскагаспадарчы гурток у Гуранах гаспадарыць на звыш 200 гектарах зямлі дзяржаўнага фонду. У іх 9 трактараў з поўным саставам машын, два камбайны „Бізон“ і „Вістуля“. Гаспадараць добра. У апошнія гады збіралі па 20 цэнтнераў збожжа з гектара, хоць зямля тут пясчаная, IV і V класы.

Сельскагаспадарчы гурток у Гуранах плануе неўзабаве распачаць гадоўлю авечак — стада ў 200 штук. Ужо прыязджалі інжынеры глядзець, як з вадой стаіць справа і дзе капаць глыбінны калодзеж.

Гурток гэты мае 40 гектараў балота, якое ляжыць без ніякай карысці. Балота цягнецца амаль 2 кіламетры — ад Новага Вострава да Гуран. Яно не меліяравана і не расце на ім трава. Часам толькі ўвосень выганяюць сюды з вёскі кароў. Шкада, што столькі зялёных угоддзяў ляжыць адлогам. А мы так часта любім гаварыць — выкарыстаць усе зялёныя рэзервы.

**Т. К.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### БУДЗЕ КЛУБ У КЛЕЙНІКАХ

**Адказвае:**

**GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” UL. WYZWOLENIA 27 W HAJNÓWCE.**

Zarząd Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska” w Hajnówce w odpowiedzi na pismo z dnia 21.03.1974 r. wyjaśnia:

Klub Rolnika w Klejnikach został zlikwidowany przez GS Narew, ponieważ w tym czasie nie podlegał do naszego rejonu działania.

W ubiegłym roku przeprowadziliśmy rozmowę z Naczelnikiem Urzędu w Czyżach, który poinformował, że Urząd Powiatowy z podziału nadwyżki obiecał przydzielić fundusz na kapitalny remont pomieszczeń, które przeznaczone są na klub. Kapitalny remont wyniesie okło 80 tys. zł.

Po wykonaniu kapitalnego remontu, tut. Spółdzielnia zabezpieczy odpowiednie wyposażenie klubu.

**Do wiadomości:**
**Wydział Kultury**
**Urzędu Powiatowego**
**w Hajnówce**

**Prezes Zarządu**
**podpis nieczytelny**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Indeks 36911.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

